# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 29 (903) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 22 ЛІПЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.

# ДНІ БЕЛАРУСКАЙ ССР



*Гродзенская дэлегацыя ў нацыянальных касцюмах у час сустрэчы на граніцы ў Кузніцы.*

**Апошняя чэрвеньская субота стала вялікім святам дружбы. У Саколцы на Беласточчыне адбыўся грамадны мітынг з нагоды пачатку агульнапольскіх Дзён Беларускай ССР, які быў спалучаны з прысваеннем імя Сяргея Прытыцкага новаму заводу будаўнічай сталяркі ў Саколцы.**

Дарога, што вядзе ад граніцы з Кузніцы Беластоцкай у Саколку, упрыгожана транспарантамі, на якіх відаць лозунгі на польскай і беларускай мовах. На граніцу прыбываюць дэлегацыі працоўных Беласточчыны і прадстаўнікі ўлад. На савецкім баку 500 чалавек дэлегацыі працоўных Гродзенскай вобласці. Яшчэ момант, і абедзве дэлегацыі наблізкаюцца да сябе. На чале іх прадстаўнікі ўлад. З нашага боку: сакратары Ваяводскага камітэта ПАРП **Яўген Златажынскі і Стэфан Завадзінскі**, а таксама старшыня Прэзідыума ВРН **Зыгмунт Спрыха** з членамі Прэзідыума. У складзе гродзенскай дэлегацыі: старшыня Абласнога Выканаўчага камітэта савета дэпутатаў працоўных у Гродна **Грыгорый Фамічоў**, II сакратар Абласнога камітэта КПБ **Сяргей Кабяк**, сакратар Абласнога камітэта КПБ **Аляксандр Ульяновіч, Таццяна Прытыцкая** — жонка С. Прытыцкага з дзвюма дочкамі.

Старaславянскім звычаем, вітаючыся, абедзве дэлегацыі абменьваюцца прыгожымі, багата ўпрыгожанымі бохнамі хлеба і соллю. Момант прывітання іншых членаў дэлегацыі, і ўсе адпраўляюцца ў Саколку на мітынг дружбы.

Зялёны пляц пры сталярным заводзе запоўнены многатысячнай публікай. На паветры хвалююцца сцягі чырвоныя, бела-чырвоныя і чырвона-зялёныя з беларускім арнаментам. На ганаровую трыбуну ўваходзяць гаспадары ўрачыстасці і госці. Ад імя завода прыбыўшых вітае I сакратар завадскога камітэта ПАРП **Уладзіслаў Рачкоўскі.** Асабліва горача прысутныя вітаюць члена Палітбюро ЦК ПАРП, намесніка старшыні Рады Дзяржавы, старшыню Цэнтральнай Рады прафсаюзаў **Уладзіслава Кручка**, дэлегацыю БССР на чале са старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, вядомым беларускім пісьменнікам **Іванам Шамякіным** і другіх членаў дэлегацыі, намесніка кіраўніка арганізацыйнага аддзела ЦК ПАРП **Крыстына Дамброву**, намесніка аддзела прапаганды, прэсы і выдавецтваў ЦК ПАРП **Антона Владарчыка**, намесніка міністра будаўніцтва **Адама Глазуру** і іншых.

З прамовай выступае II сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку **Уладзіслаў Юшкевіч.** Гаворыць ён, што сённяшняя ўрачыстасць з'яўляецца сімвалам польска-савецкай дружбы, дае пачатак святкаванням у нашай краіне Дзён Беларускай ССР, адной з тых рэспублік, з якімі дружаскае супрацоўніцтва мае на Беласточчыне форму штодзённай практыкі. Затым з прамовай выступае старшыня дэлегацыі БССР Іван Шамякін, які перадае падарунак — бюст Сяргея Прытыцкага. Старшыня аблвыканкома ў Гродна Грыгорый Фамічоў ад імя хімічнага камбіната, які носіць таксама імя Сяргея Прытыцкага, уручае заводу партрэт героя, выкананы ў дрэве. Віцэ-міністр Адам Глазура зачытвае акт прысваення імя Сяргея Прытыцкага заводу будаўнічай сталяркі. З зацікаўленнем выслухалі прысут-

(Працяг на стар. 3)




КАБ КРАІНА НАША ЦВІЛА, ЯК РУЖА...

# БГКТ ХРОНІКА

■ 29 чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума дуброўскага аддзела БГКТ, у якім прынялі ўдзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Пасля дыскусіі былі зацверджаны:
1) план адзначэння Дзён Беларусі,
2) план працы аддзела на другое паўгоддзе.

■ 30 чэрвеня гданьскі аддзел БГКТ арганізаваў урачысты вечар, прысвечаны Дням Беларусі ў Польшчы. З уступным словам выступіў Мацей Канапацкі, а з дакладам аб дасягненнях Савецкай Беларусі — сакратар аддзела Анна Красько.

■ 1 ліпеня сакратар гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку Валянціна Цімашук у клубе ГП БГКТ прачытала даклад аб дасягненнях Савецкай Беларусі ў галіне эканомікі і культуры.

■ Літаратар Сакрат Яновіч правёў аўтарскія сустрэчы ў Сямяціцкім павеце. У Клюковічах 30 чэрвеня, а ў Чорнай Вялікай, Чорнай Сярэдняй і Макарках 1 ліпеня. Нядаўна таксама Сакрат Яновіч чытаў свае творы ў пачатковай школе ў Гарадку і Залуках, у тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове і ў клубах „Руху" ў Агароднічках і Калодне (Беластоцкі павет).

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ з нагоды Дзён Савецкай Беларусі ў Польшчы арганізаваў сустрэчы з журналістамі „Нівы". Мікола Гайдук у Чэхах Арлянскіх, Міхась Хмялеўскі ў Трасцянцы, а Янка Цялушэцкі ў Макаўцы расказвалі прысутным аб дасягненнях Савецкай Беларусі ў будаўніцтве камуністычнага грамадства.

■ Эстрадная група з Плёсак з нагоды Дзён Савецкай Беларусі выступала з канцэртамі 3 ліпеня ў Банях Мазурскіх (Галдапскі павет), а 4 ліпеня ў Беластоку ў клубе тэкстыльшчыка на фабрыцы пасмантэрыі.

■ 7 ліпеня паэт Алесь Барскі сустрэўся з чытачамі ў клубе будаўнікоў у Беластоку.

■ Ад 25 чэрвеня да 9 ліпеня на Сакольшчыне і ў Беластоцкім павеце знаходзіўся пад кіраўніцтвам Аляксандра Баршчэўскага студэнцкі фальклорны лагер Варшаўскага універсітэта (рускай і беларускай філалогіі), які сабраў шмат фальклорнага матэрыялу.

■ 8 ліпеня ў Грабняку каля Збуча гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў беларускі народны фэстын, прысвечаны Дням Савецкай Беларусі ў Польшчы і XXX гадавіне Войска Польскага.

(мх)



## СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

# МАЦІ МАЯ ЖЫВЕ Ў НОВАЙ ВОЛІ

Трохпакаёвая, прыгожа абсталяваная кватэра ў новым квартале Варшавы. Гаспадары вітаюць мяне ўсёй сям'ёй — др Ян Скепка, жонка Ніна і жвавая дачушка Ілона. На іх тварах відаць задавальненне, бо хоць госць будзе размаўляць з татам, але і яна зможа паказаць свае каханыя лялькі, расказаць, як гуляе з сяброўкамі ў дзетсадзе.

Усе ведаюць, па якой справе я прыехаў, і, калі самавар яшчэ толькі пачынае шумець, прыступаем да размовы.

— Вы нядаўна атрымалі званне доктара матэматычных навук, — звяртаюся да Яна Скепкі. — Прыміце сардэчныя віншаванні і, калі ласка, скажыце нам, чаму Вы выбралі на ўсё жыццё іменна матэматыку?

— З дзіцячых год мяне матэматыка цікавіла. Быў я перакананы, што гэтая галіна мне даецца лягчэй ад іншых. У маім асяроддзі цяжка было шырэй глянуць на гэты прадмет. У пачатковай сярэдняй школе атрымаў я слабую матэматычную падрыхтоўку. У параўнанні з сябрамі з больших гарадоў я быў дрэнна падрыхтаваны да вучобы ва універсітэце.

— То як жа гэта здарылася, што нягледзячы на нізкі ўзровень сярэдняй школы Вы змаглі паступіць на матэматычнае аддзяленне?

— Ведаў было ў мяне дастаткова, каб паступіць ва універсітэт, школа не дала мне аднак дакладнейшага паняцця аб вышэйшай матэматыцы. Мае сябры на першым курсе часта яркраз мелі ўжо багатыя веды ў гэтай галіне. Таму спачатку, іменна на першым курсе было нялёгка прысвоіць увесь праграмны матэрыял.

Працяг на стар. 4

 © PDF: Kamunikat.org 2023

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ

## ЛЕНІНСКАЯ ПРЭМІЯ Л. БРЭЖНЕВУ

За выдатныя заслугі ў барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Л. Брэжневу прысуджана міжнародная Ленінская прэмія „За ўмацаванне міру паміж народамі". 11 ліпеня ў Вялікім Крамлёўскім палацы адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны ўручэнню гэтай прэміі Леаніду Брэжневу.

У час адкрыцця сходу старшыня Камітэта па міжнародных Ленінскіх прэміях акадэмік Д. Скабяльцын сказаў:

„Праграма міру, выстаўленая таварышам Л. Брэжневым у Справаздачным дакладзе ЦК XXIV з'езду КПСС, указвае канкрэтныя шляхі забеспячэння міжнароднага міру і бяспекі. За кароткі час яна атрымала найшырэйшае распаўсюджанне і падтрымку ва ўсіх краінах, стала стваральным фактарам сучасных міжнародных адносін. Яе пазітыўнае ўздзеянне на ход сусветных падзей відавочнае. Асабліва хацелася б падкрэсліць значэнне той работы, якую праводзіць Леанід Ільіч Брэжнеў па ажыццяўленню кантактаў з кіруючымі дзеячамі брацкіх сацыялістычных дзяржаў. Яны служаць яркай дэманстрацыяй згуртаванасці краін і народаў, аб'яднаных вузамі непарушанага саюзу і сацыялістычнай салідарнасці".

## АБ СКАРАЧЭННІ ЎЗБРОЕНЫХ СІЛ

Камісія палаты прадстаўнікоў па замежных справах амерыканскага кангрэса пачала слуханні па пытанню аб скарачэнні колькасці ўзброеных сіл ЗША ў Еўропе.

На разгляд кангрэсменаў прадстаўлена шэраг заканадаўчых прапаноў, аўтары якіх указваюць, што захаванне ў Еўропе дзесяткаў тысяч амерыканскіх салдат не адпавядае нацыянальным інтарэсам Злучаных Штатаў ва ўмовах разрадкі напружанасці ў адносінах паміж Усходам і Захадам і з'яўляецца надзвычай цяжкім для дзяржаўнага бюджэту, асабліва ўлічваючы хранічны дэфіцыт плацежнага балансу краіны.

Паводле даных кангрэса, цяпер у Еўропе налічваецца 313 тысяч амерыканскіх салдат, утрыманне якіх каштуе Злучаным Штатам 17 мільярдаў долараў.

## ЛІКВІДАЦЫЯ ВЫНІКАЎ МЕЦЯЖУ

Народны ўрад Чылі прымае рашучыя меры па ліквідацыі вынікаў рэакцыйнага мецяжу 29 чэрвеня і нармалізацыі абстаноўкі ў краіне. Следчым па асабліва важных справах чылійскага ваеннага суда прыцягнуты да адказнасці сем ваеннаслужачых на чале з завадатаем мяцежнікаў Раберта Суперам.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ПАДЗЕЯ

Генеральны сакратар ААН К. Вальдхайм ахарактарызаваў скліканне нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе як „гістарычную падзею". Гэта нарада, сказаў ён, з'яўляецца важным крокам у працэсе разрадкі напружанасці ў Еўропе.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

У адпаведнасці з праграмай савецка-французскага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі і прамысловасці, заключанай на дзесяцігадовы перыяд, падпісаны кантракты паміж усесаюзным аб'яднаннем „Праммашімпарт" і французскай фірмай „Парсонс уітмор". (ак)

 БССР

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Пад старшынствам Ф. А. Сурганава адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Заслухана справаздача старшыні выканаўчага камітэта Карэліцкага раённага Савета дэпутатаў працоўных К. Зімнаводы аб рабоце раённага Савета дэпутатаў працоўных па выкананню пастаноў ЦК КПСС „Аб мерах па далейшаму паляпшэнню работы раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў працоўных". Адзначана, што раённы Савет і яго выканаўчы камітэт пачалі больш канкрэтна займацца работай прадпрыемстваў, калгасаў, устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі раёна. Павысілася роля сесій Саветаў, расшырылася кола разглядаемых на іх пытанняў. Узрасла актыўнасць дэпутатаў, цяснейшай стала іх сувязь з масамі.

## АБ ПРЫГРАНІЧНЫХ СУВЯЗЯХ

10 ліпеня гэтага года ў ЦК КПБ адбылася нарада па пытаннях развіцця дружалюбных сувязей абласных камітэтаў Кампартыі Беларусі з партыйнымі камітэтамі сацыялістычных краін. З дакладам „Аб далейшым павышэнні эфектыўнасці дружалюбных сувязей абкомаў Кампартыі Беларусі з партыйнымі камітэтамі сацыялістычных краін у святле рашэнняў XXIV з'езду партыі і красавіцкага (1973 г.) Пленума ЦК КПСС" выступіў другі сакратар ЦК КПБ А. Аксёнаў.

## ДА ЮБІЛЕЮ ВІЦЕБСКА

Група вядучых архітэктараў Беларусі пабывала ў старажытным горадзе на Дзвіне, які рыхтуецца да свайго 1000-годдзя. Архітэктары азнаёміліся з планамі добраўпарадкавання вуліц і плошчаў Віцебска, наведалі новыя мікрараёны горада. Мэта гэтай паездкі — распрацоўка эскізнага праекта па ўпрыгожванню абласнога цэнтра да свята.

## ПРА Я. КУПАЛУ І Я. КОЛАСА

У выдавецтве „Беларусь" у двух ідэнтычных выданнях на рускай і беларускай мовах з перакладамі на англійскую і французскую мовы выйшла кніга „Народныя паэты Беларусі Янка Купала і Якуб Колас". У ёй сабраны артыкулы і ўспаміны аб класіках беларускай літаратуры дактароў філалагічных навук М. Лазарука, А. Семяновіча, акадэміка Акадэміі навук БССР П. Глебкі, народнай артысткі СССР Л. Александроўскай, народнага пісьменніка БССР М. Лынькова, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР В. Стэльмаха. Змешчаны таксама вершы паэтаў, напісаныя імі ў розныя гады. Кніга багата ілюстравана фатаграфіямі.

## БССР — ФРГ

На Салігорскую фабрыку бялізнавага трыкатажу паступілі з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі пяць станкоў „Супер гарант", якія прызначаны для вязання ажурных палотнаў і карункаў. Нямецкія спецыялісты зрабілі таксама мантаж гэтых машын і азнаёмілі савецкіх тэхнікаў з рэжымам работы на іх.

## ЛЯМПАЧКІ З БРЭСТА

У гэтым годзе Брэсцкі электралампавы завод дасць 228 мільёнаў лямп — на 3 мільёны больш, чым прадугледжвала праектная магутнасць. Першыя 100 мільёнаў лямп былі тут выпушчаны датэрмінова. (вр)

 ПОЛЬШЧА

## У ФРАМБОРКУ

У Фрамборку — горадзе, дзе жыў і працаваў Мікалай Капернік, адбыўся гарцэрскі злёт маладых будаўнікоў Фрамборка, якія прымалі ўдзел у акцыі „Аперацыя 1001 — Фромбарк". Восем год працягвалася гэта акцыя, у якой прыняло ўдзел 40 тыс. гарцэраў. На ўрачыстасць прыбылі найвышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя ўлады на чале з I сакратаром ЦК Э. Геркам, старшынёй Рады Дзяржавы Г. Яблонскім і прэм'ерам ПНР П. Ярашэвічам. Э. Герэк узнагародзіў сцяг ЗГП штандарам працы I класа. Сцяг гэты быў узнагароджаны таксама медалем „Заслужаны дляВарміі і Мазур".

## ЖНІВО

Распачалося так званае вялікае жніво. Найперш у паўднёвых ваяводствах краіны. Ад сельскагаспадарчай службы і ўсіх гаспадароў патрэбна поўная мабілізацыя сіл, каб жніво прайшло спраўна.

## ПРА МЕЛЕЦ ГОЛАСНА

Мелец паявіўся ў апошні час на першых старонках усіх газет. А гэта перш за ўсё дзякуючы вялікаму прадпрыемству, якое там выдатна працуе — ВСК. ВСК-Мелец вядомы цяпер з прадукцыі сучасных самалётаў для сельскай гаспадаркі, а таксама для іншых галін гаспадаркі. Супольна з савецкімі канструктарамі паўстаў у Мельцы новы тып самалёта для сельскай гаспадаркі — М-15. Рацыяналізатары з мялецкай ВСК занялі першае месца ў турніры маладых майстроў тэхнікі. Пастаянна працягваецца тут рацыяналізатарскі конкурс пад назвай „Рабочая пастанова". Мялецкую ВСК наведалі I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер ПНР П. Ярашэвіч.

## ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

Палітбюро ЦК ПАРП на сваім пасяджэнні выслухала інфармацыю пра дзейнасць польскай дэлегацыі на канферэнцыі бяспекі ў Хельсінкі. Зацвердзіла таксама ўрадавы план жыллёвага будаўніцтва на гады 1976—80. Праслухала інфармацыю аб жнівах. Палітбюро зацвердзіла прадстаўленыя Міністэрствам сельскай гаспадаркі напрамкі павелічэння вырошчвання ячменю.

## ЦЭНТР АХОВЫ АСЯРОДДЗЯ

Дзесяць месяцаў таму назад у Катавіцах пачаў будавацца гмах для Цэнтра аховы асяроддзя. Заканчэнне будовы прадбачыцца ў лістападзе 1974 года.

## ТУРНІР МАЛАДЫХ МАЙСТРОЎ ГАСПАДАРНАСЦІ

У Варшаве адбылося падсумаванне дасягненняў паўгоддзя ў конкурсе для маладых рабочых, тэхнікаў і інжынераў. Ініцыятывы, якія яны ўзнімаюць, служаць узросту прадукцыйнасці працы і ашчаднасці ў матэрыялах. За паўгоддзе маладыя майстры гаспадарнасці сэканомілі 1,5 мільярда зл.

## КАСЦЮШКОЎЦЫ

Напярэдадні XXX гадавіны прысягі, якую далі салдаты I дывізіі Т. Касцюшкі ў Сельцах над Акой, на палях Грунвальду адбылася прысяга, якую цяпер далі салдаты I Варшаўскай механізаванай дывізіі імя Т. Касцюшкі. (вл)

 ВАЯВОДСТВА

## МІНІСТР КУЛЬТУРЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

12 ліпеня ў нашым ваяводстве прабывалі міністр культуры і мастацтва Станіслаў Вронскі і віцэ-міністр Юзэф Файкоўскі.

У сустрэчы, гаспадаром якой быў старшыня Прэзідыума ВРН Зыгмунт Спрыха, прымалі ўдзел таксама I сакратар ВК ПАРП Здзіслаў Куроўскі, сакратар ВК ПАРП Яўген Златажынскі, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Рамуальд Лазаровіч, кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН Антоні Гжэськевіч, кіраўнік аддзела навукі, асветы і культуры ВК ПАРП Міхал Гнатоўскі і ваяводскі кансерватар помнікаў Ежы Трыбурскі.

Сустрэча была прысвечана рэалізацыі найбольш важных планаў, узбагачаючых культурныя дасягненні Беласточчыны. Міністр Станіслаў Вронскі падкрэсліў, што ўлады Беласточчыны выступілі з надзвычай багатымі прапановамі адносна развіцця культуры ў ваяводстве, яны даюць шанцы ўключыць дасягненні рэгіёна ва ўсенародны скарбец.

Міністры наведалі таксама новыя аб'екты артыстычных школ у Беластоку.

## НА ФЕСТЫВАЛЬ МОЛАДЗІ

14 ліпеня ў Беластоку адбылася сустрэча сакратара ВК ПАРП Яўгена Златажынскага з дэлегацыяй Беласточчыны, якая паедзе на X Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Берліне.

У Берлін паедзе з Беласточчыны 18 дзяўчат і хлапцоў, прадстаўнікоў усіх асяроддзяў і ўсіх арганізацый. Пасля сустрэчы ў Беластоку накіраваліся яны ў Кракаў, дзе ад 19 да 23 ліпеня прымуць удзел у злёце маладых перадавікоў працы і вучобы.

## У АЎГУСТОВЕ

Ужо другі раз у Аўгустове арганізаваны лагер-сімпозіум маладых музыкантаў, мастакоў, літаратараў і журналістаў, акцёраў і рэжысёраў, фатографаў і кінематаграфістаў, а таксама арганізатараў культуры. Гэта людзі ўжо з дыпломамі або яшчэ студэнты. Прыехала іх больш 180 чалавек.

Мэта сімпозіума — канфрантацыя артыстычнай моладзі з розных рэгіёнаў краіны, з розных галін мастацкай творчасці. Сімпозіум адначасова будзе спрыяць набліжэнню гэтай моладзі да грамадскасці.

## ТРУСКАЛКІ

Трускалкавы сезон максімальна выкарыстаны ў элцкім халадзільніку. Ад 17 чэрвеня гэтага года замарожана 315 тон трускалак. Было зроблена 70 тон кампотаў, а 200 тон трускалак горшага гатунку было перароблена ў сок.

У ліпені тут пачалі падрыхтоўваць кампоты з іншых ягад.

## АПОШНІЯ ДНІ ПЕРАД ЖНІВАМІ

Як даносяць беластоцкія карэспандэнты, у ваяводстве адбываецца канчатковая падрыхтоўка да жніва. Машыны амаль поўнасцю гатовы да старту. Многае залежыць ад таго, як будуць працаваць тэхнічныя брыгады. Нельга забывацца пра дапамогу старэйшым людзям і інвалідам. (ач)




**Niedziela 22.VII.**

9.05 Program dnia. 9.10 Gra Reprezentacyjna Orkiestra Wojska Polskiego. 9.55 Zlot Młodych Przodowników Pracy i Nauki — Kraków 73. Spotkanie Kierownictwa Partii i Rządu z uczestnikami Zlotu. 12.00 Uroczysta Zmiana Warty przed Grobem Nieznanego Żołnierza w Warszawie. 12.30 Dziennik. 12.45 Niedzielny Koncert z Lublina. 13.50 „Pod polską banderą" („Pokochać wiatr"). 14.20 Dla dzieci: Cz. Janczarski i T. Kubiak — „Ptaki mówią po polsku". 14.45 Losowanie Totolotka. 15.00 „Piórkiem i węglem". 15.25 „Spotkanie z... Homo Homini". 15.55 Zlot Młodych Przodowników Pracy i Nauki — Kraków 73. Uroczyste otwarcie Spartakiady Młodzieży w Krakowie. — Pokaz gimnastyczny. 17.15 „Poezja Polska" — J. Tuwim — „Zieleń". 17.30 TV Teatr Muzyki: „Z bukietem kwiatów". 18.30 FORUM. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Zjazd absolwentów" czyli „Uśmiech i piosenka polska". 21.05 Wiadomości sportowe. 21.45 „Profesor na drodze" — film fab. TVP.

**Poniedziałek 23.VII.**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Gujana kraina wód — noc w dżungli" — film dok. TV szwedzkiej. 17.10 „Echo stadionu". 17.40 TV Kurier Kielecki. 18.00 „Oferty". 18.15 TV Kurier Lubelski. 18.35 „Eureka". 19.05 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV L. Kruczkowski — „Niemcy". 21.55 „Sezam". 22.25 Dziennik. 22.40 Spotkanie z Haliną Słoniowską.

**Wtorek 24.VII.**

10.00 „Profesor na drodze" — film fab. TVP. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Artyści, których podziwiamy" — Maria Fołtyn. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.00 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Tam, gdzie rosną poziomki" — film fab. szwedzki. 21.50 „Wieczory Nowosądeckie" — rep. film. 22.20 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.45 „Studio przebojów" — program rozr. TV NRD.

**Środa 25.VII.**

9.40 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Tam, gdzie rosną poziomki" — film fab. szwedzki. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Dworska szkoła jazdy" — film dok. austriacki. 17.10 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.30 „Spacerkiem po kinach". 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.20 „Orbita". 18.50 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Bumbarasz" — film fab. radz. cz. II. 21.20 „Świat i Polska". 22.00 „Słowik" — opera w I akcie Macieja Kamieńskiego. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 26.VII.**

10.00 „Bumbarasz" — film fab. radz. cz. II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Kolumna Trajana" — film dok. rum. 17.00 „Nowiny muzycznej oficyny". 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.35 „Kwadrans akademicki". 18.55 „Przypominamy, radzimy". 19.00 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 ALFRED HITCHCOCK PRZEDSTAWIA: „Dziewczyna w dżinsach" — film fab. USA. 21.05 „Bez togi". 21.45 PKF. 21.55 „Ekspres nr 31". 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 27.VII.**

10.00 ALFRED HITCHCOCK PRZEDSTAWIA: „Dziewczyna w dżinsach" — film fab. USA. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nie tylko dla pań". 17.05 Magazyn Medyczny. 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.10 Kronika Spartakiady Młodzieży. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Spotkanie z Wacławem Neckarzem" — program rozr. TV Czechosł. 20.50 PANORAMA. 21.30 Teatr TV: A. Suchowo-Kobylin — „Śmierć Tarełkina". 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.05 Magazyn Medyczny.

**Sobota 28.VII.**

10.00 „Angelika wśród piratów" — film fab. franc. 14.40 Program dnia. 14.45 Program I proponuje. 15.15 „Z kamerą wśród zwierząt". 15.50 Dziennik. 16.00 Uroczyste otwarcie X Światowego Festiwalu Młodzieży i Studentów w Berlinie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Pierwsze telewizyjne spotkanie z balladą". 21.10 „Angelika wśród piratów" — film fab. franc. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe. Kronika Spartakiady Młodzieży. 23.10 „Muzyka rozrywkowa" — program TV NRD.




**Piątek, 20 lipca**

8.15 Film muzyczny. 10.00 Szkoła szachowa. 10.45 Film dokumentalny. 13.30 Program dnia. 14.30 Muzyka. 15.15 Program literacki z Grodna. 16.40 Film lalkowy dla dzieci. 17.10 Wieczór poświęcony Majakowskiemu. 19.00 Czas. 19.30 Dla amatorów operetki. 20.00 Program sportowy.

**Sobota, 21 lipca**

7.00 Program dnia. 8.55 Przegląd międzynarodowy. 9.45 Filmy animowane. 10.15 Koncert zespołów amatorskich. ZSRR—Polska. 11.25 Film fab. 13.00 Spotkania muzyczne. 14.15 W świecie zwierząt. 16.10 Ekran dokument. 17.35 Koncert życzeń. 18.35 Wystąpienie konsula generalnego PRL w Mińsku. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 20.50 Program sportowy.

**Niedziela, 22 lipca**

7.00 Program dnia. 9.30 Spektakl dla uczniów. 11.45 Koncert. 13.15 Film fab. 14.30 Film dokument. 15.30 Filmy animowane. 16.10 Klub filmowy. 17.10 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk)—„Szachtior" (Donieck). 2 połowa. 18.00 Program poświęcony Polsce. 18.25 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów)—„Zaria" (Woroszyłowgrad). 2 połowa. 19.15 Czas. 19.45 Film fab. 20.45 Program sportowy.



 © PDF: Kamunikat.org 2023

 

# РАЗЬБА ПА ДРЭВУ не загіне

Разьба па дрэву — карункавыя ўпрыгожанні вакол вокан і пад страхою, абліцоўка вуглоў і мастацкая ўкладка дошак на шчытах, ажурныя ганкі і фігурныя вільчыкі — усё гэта стварае маляўнічы каларыт сёлаў Гайнаўскага, Бельскага і Сямяціцкага паветаў. Народныя разбяры вычаравалі з дрэва замысловатыя ўзоры і цэлыя кампазіцыі. Але паўставалі гэтыя цудоўныя творы народнага мастацтва пераважна ў міжваенны час, калі сяляне будавалі драўляныя дамы. Цяпер жа сельскае будаўніцтва ў асноўным мураванае. Разьба па дрэву не мае ў ім прымянення. Ці самабытнае чароўнае народнае мастацтва загіне?

У вёсцы Альхоўка, што сваімі агародамі і паплавамі ўпіраецца ў масіў Белавежскай пушчы, мне давялося размаўляць з Іванам Скепкам — вядомым у ваколіцы столярам, чалавекам, якому ўжо звыш 60 год.


Іван Скепка з Альхоўкі, што на Гайнаўшчыне.

— Жывём мы пры пушчы — дрэва ў нас колькі хоч і якога душа пажадае. Заняўся я сталяркай адразу, як прыйшоў з войска, гэта значыць, у 1929 годзе. Рабіў дзверы, вокны, але карціла мяне ўзяцца за што-небудзь больш далікатнае. І пачаў я рабіць калаўроткі, санкі-шыткі, выразваць узорныя шалюнкі на вокны, вугельнікі, падстрэшнікі. І то так сам па сабе. Ніхто мяне гэтаму не вучыў, а людзям яны падабаліся. Колькі дамоў я імі прыбраў! Немцы ўсё знішчылі, разбурылі, спалілі, калі вакол пушчы пацыфікацыю правадзілі. Нас таксама па свеце разагналі. Бадзяўся я з сям'ёю ў Фальварках, Шымках, Круглым Ляску ды рабіў людзям калёсы, бочкі, розны драўляны посуд, калаўроткі. Гэтым мы толькі і карміліся. Пасля вызвалення вярнуліся людзі на старыя папялішчы, сталі будавацца, аджыла і патрэба ў харастве. Зноў я ўзяўся за сваю работу. І сын таксама ўжо мне памагае. У апошнія гады пайшла мода на розныя точаныя рэчы. Па санкі-шыткі прыязджаюць да нас гуралі аж з Закапанага і іншых горных мясцовасцей. Бо, бачыце, турысты надта ж любяць ездзіць на кулік у тутэйшых каляровых ды точаных шытках. Людзі з Белавежы таксама цікавяцца і шыткамі і разьбою — бо і кулік у пушчу, і прыватныя кватэры ў дамах, аздобленых разьбой хутчэй прыцягваюць турыста. Цэпэлія ж заказвае невялічкія бочачкі-анталкі на 4—5 літраў віна або піва. На іх ёсць вялікі спрос і ў нас, і за граніцай.

Заказаў ёсць, каб ано чалавек даў рады зрабіць!

Гэты вокліч Івана Скепкі сведчыў сам за сябе. Калі я заглянуў у яго майстэрню, убачыў там не саматужныя колішнія прылады, а электрычны матор і камплект машын да яго: габлярку, тарказку, дыскавую пілу, розныя электрычныя свідры. Вакол стаялі закончаныя вырабы, якраз падстрэшнікі і вільчыкі. І гэта мяне канчаткова пераканала, што разьба па дрэву не загіне. Яна, магчыма, зменіць свае формы і прызначэнне, але застанецца ўсё ж цудоўным кампанентам багацця народнай творчасці нашага рэгіёну.

Тэкст і фота **М. Гайдука**


Такія вугельнікі і разьба над вокнамі, як у гэтым доме ў вёсцы Катоўка, Гайнаўскага павету, на Беласточчыне, зусім не рэдкасць.

# ФАЛЬКЛОР

*СЯМЕЙНАЯ*




*Ой, пуд вішнёю, пуд чэрэшнёю*
*Стояў стары з молодою, як і з ягодкою.*
*Стояў стары з молодою, як і з ягодкою.*
*І просілася, і молілася:*
*— Пусті мэнэ, стары діеду, на гуліцю погуляць.*
*Пусті мэнэ, стары діеду, на гуліцю погуляць.*
*— А я сам нэ пуйду і тэбэ нэ пушчу,*
*Бо ты мэнэ старого то й покінэш самого.*
*Бо ты мэнэ старого то й покінэш самого.*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння, з вёскі Новакорніна Гайнаўскага павету, запісаў 9 мая 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# А каб іх спякло, гэтыя трускалкі...

Плёскі — вёска вялікая, і амаль усе гаспадары заняліся вырошчваннем і продажам трускалак. У мінулым годзе многа грошай атрымалі яны за трускалкі, так што вельмі аплацілася даглядаць іх, хаця, як вядома, вымагаюць яны стараннага догляду. Таму сёлета пасадзілі яшчэ больш, нават некаторыя плёскаўцы, якія жывуць у горадзе, пасадзілі трускалкі на бацькоўскіх загонах з намерам здаваць іх на пунктах скупкі ў вёсках.

Многія гаспадары закантрактавалі трускалкі. І вось яны якраз выйгралі справу з трускалкамі, а іншыя ходзяць і клянуць у голас: „Хай іх спячэ, гэтыя трускалкі, выарэм іх на другі год, каб і следу не засталося". І нічога дзіўнага, што клянуць, трускалак на кожным карчы аж роіцца, вялікія яны, чырвоныя і салодкія, а тут на пунктах скупкі не прымаюць, бо незакантрактаваныя. А ў горад няма ж часу ездзіць і траціць цэлы дзень, калі пагода на двары і сена сухое.

Гавораць, што некаторым удаецца прадаць на пунктах скупкі нават некантрактаваныя трускалкі, але ж не ўсе ў вёсцы з'яўляюцца сваякамі тых, хто прымае трускалкі на скупе...

Трускалачны крык у Плёсках не заціхае, павялічваючыся па меры таго, як штораз больш трускалак чырванела на карчах.

На будучы год, калі будзе такі ўраджай, трэба будзе знайсці нейкае карыснае выйсце. Нельга ж марнаваць людскай працы! (на)

## Прыходзіцца блудзіць

Прыехаўшы ў Гарадок Беластоцкага павету даводзіцца блудзіць, каб трапіць на патрэбную вуліцу. Некаторыя дошчачкі з назвамі вуліц даўно выбляклі або некуды прапалі, і цяпер невядома, як трапіць на тую ці іншую вуліцу. Як вядома, дагэтуль былі ўпарадкаваны нумары на дамах, але вось аб назвах вуліц чамусьці забылі. (ця)

# Дасягненні Лазавікоў

Мікалай Лазавік з вёскі Сакі ў Бельскім павеце залічаецца да такіх гаспадароў, у якіх сельскагаспадарчая вытворчасць стаіць на высокім узроўні і якія маюць што прадаваць дзяржаве.

У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве амаль 10 тон збожжа, 18 тон бульбы, 10 кормнікаў, 3 ялоўкі, шмат малака і яек. Гаспадарыць ён, як кажуць, з алоўкам у руках. Усё, што прадаў у 1972 годзе, дало яму 144 тысячы зл. Гэты год не будзе горшы, а можа, і значна лепшы.

Сям'я Мікалая Лазавіка складаецца з дарослых нежанатых дзяцей, дачкі Анны і сына Петрыка, жонкі і пажылой ужо маткі гаспадара. Ёсць з кім працаваць. Лазавікі апрацоўваюць каля 20 га зямлі і каля 3 га сенажаці. На мінеральныя ўгнаенні аддаюць яны ў год больш 10 тыс. зл. З аднаго гектара ў сярэднім атрымоўваюць па 25 цэнтнераў збожжа і па 300 цэнтнераў бульбы. Шмат маюць добрай пашы для жывёлы. У мінулым годзе сабралі 7 балонаў канюшыны, падрыхтавалі больш 6 тон кішонкі з паранай бульбы і льняной мякіны.


Мікалай і Марыя Лазавікі.

Жывёлагадоўля ў іх гэта: 3 дойныя каровы, некалькі яловак, 3 кані (у тым ліку 2 кабылы-маткі), шмат свіней, авечак і курэй. Для жывёлы ёсць добрыя ўмовы. І хлявы, і свіронак, і месца на парнік, і клуня, усё даволі добра абсталяванае. А калі ўжо гаварыць пра дом, дык ён такі, якіх яшчэ не многа ёсць на вёсках. Гэта проста віла, гарадскі двухэтажны домік, у якім і прыгажосць, і чысціня, і мэбля радуюць вока.

У Лазавікоў ёсць шмат сельскагаспадарчых машын. Маюць яны сваю жнярку, сеўнік і ўласны трактар, да якога падчапляюць вялікі балонны воз. Ёсць і свой трактарыст — сын Лазавіка, Петрык, які з'яўляецца студэнтам завочнай Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Любліне. Ён пабудаваў на весну шклярню, з якой сабе і суседзям хапала расады ранняй капусты, гуркоў, памідораў і г.д.

Працавітасць і лад у сям'і Лазавікоў з'яўляюцца асновай усіх поспехаў у развіцці іх сельскагаспадарчай вытворчасці.

Тэкст і фота **Міхась Хмялеўскі**

# Сонечныя дамы

Жыллёвы кааператыў у Харошчы заснаваўся ў 1967 годзе. Дагэтуль пабудаваў ён кватэры для 580 чалавек. Неўзабаве будзе перададзены ў карыстанне яшчэ адзін, пяты жылы блок для 160 асоб. У наступным годзе кааператыў пачне пабудову новага жыллёвага пасёлка па вуліцах Міцкевіча і Дзяржынскага. Новасцю будзе пабудова на гэтым пасёлку асобнага будынка, у якім жыхары кааператыва будуць без ніякіх турбот спраўляць імяніны, вяселлі, хрэсьбіны або іншыя чыста прыватныя мерапрыемствы. У вялікай зале хопіць месца нават на дзвесце асоб.

Тэкст і фота **Я. Ц.**


Вось такія сонечныя дамы будуе жыллёвы кааператыў у Харошчы.



 

# А магло ж здарыцца

— Ева, — сказаў Адам, вярнуўшыся з паляванparam, — я дастаў транзістар.

— А што гэта такое? — спытала Ева.

— Гэта... Зрэшты, ты ўсё роўна не зразумееш. Вось паслухай. — Адам уключыў прыёмнік, з якога паліліся бадзёрыя мелодыі.

— Брава! — усклікнула Ева. — Ты хоць і грубаваты, але самабытны. Дай я цябе пацалую.

— А што гэта пацалунак?

— Гэта... Ды ты ўсё роўна не зразумееш, нездарма Змей гаварыў, што...

— Вельмі мне патрэбны твае бабскія плёткі. Давай лепш пагуляем. — І ён надзеў на шыю раменчык транзістара.

Яны гулялі ў нямым захапленні.

— Цудоўна! — часам уздыхала Ева, але Адам шыкаў: не мяшай!

Гулялі яны год. Гулялі яны сто год. Праз сто год Адам недзе дастаў магнетафон. Яны выкінулі транзістар і сталі слухаць модныя запісы.

Слухалі сто год. Слухалі тысячу год. Праз тысячу год Адам прывалок тэлевізар. Каляровы. Яны перасталі гуляць. Яны сядзелі ля тэлевізара дні і ночы (тады перадачы вяліся круглыя суткі — днём для дзяцей, ноччу для дарослых).

Так яны сядзелі тысячу светавых год. І яшчэ мільён. Праз мільён Ева ўспомніла, што хацела сказаць Адаму аб тым, што, па паведамленні Змея, на адной яблыньцы растуць незвычайна смачныя яблыкі.

Але Ева не патрапіла вытлумачыць гэтага Адаму: яна развучылася размаўляць. У Адама і Евы засталіся толькі органы слыху і органы зроку. Язык за час маўчання цалкавіта атрафіраваўся.

Так спыніўся на Зямлі род людскі.

**Ю. Борын**

Заўвага аўтара: гэта версія навукай абвяргаецца. Слава богу! А магло ж здарыцца...

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

*Інтрыгі супернікаў.*

## ДЗЕ АРШЫН?

— Тату, дзе ваш аршын? — спытаў сын.

— Які аршын, Васілёк?

— Ды сусед кажа, што вы ўсіх на свой аршын мераеце.

# НІЎКА

*Сталёвыя сківіцы XX стагоддзя.*

## НІЧОГА НЕ ГАВОРАЦЬ

— У нашых суседзяў хлеў згарэў.

— А якая прычына?

— Ды нешта нічога не гавораць.

— Ну, калі не гавораць, значыць, самагонку гналі.

## КАСА НА КАМЕНЬ

Да рыбака, што сядзеў з вудачкай на беразе рэчкі, падышоў незнаёмы.

— Ловіцца рыбка? — запытаўся незнаёмы.

— А як жа, ловіцца! Каля сарака акунёў выцягнуў.

— Гм-м... — прамармытаў незнаёмы. — А вы ведаеце, хто я такі?

— Не, не ведаю.

— Я інспектар па барацьбе з браканьерамі, і гэта мой участак.

— А вы ведаеце, хто я?

— Ведаю, ты браканьер.

— Памыляецеся. Я — найвялікшы ілгун ва ўсёй нашай акрузе.

## ДРЭННАЯ ПАМЯЦЬ

— У маёй жонкі дрэнная памяць.

— Нічога не памятае?

— Не, нічога не забывае.

## НАРЭШЦЕ

Размаўляюць два шатландцы:

— Чулі, наш футбольны клуб зноў пачаў трэніроўку пасля васьмігадовага перапынку.

— Праўда? Яны што, нарэшце знайшлі той згублены мяч?

## САМАХАРАКТАРЫСТЫКА

Пайшоў наш Певень к Гусаку,
Пачаў прасіць пыхліва:
— Пасаду мне б...
Ку-ка-рэ-ку!
Адчуў я сіл прылівы.

— Ну, добра, я кім-небудзь вас
На двор на наш прызначу.
Працуйце там. У добры час!
І хопіць вам лайдачыць.

Ды мы ў сляпую не бяром,
Прыносьце ўсе паперы:
Характарыстыку, дыплом —
Дакладна ўсё праверым.

Назаўтра Певень, хоць ляны, —
Прынёс папер сувоі.
Былі напісаны яны
Адной — сваёй! — рукою.

Гусак паперы паглядзеў,
Спытаў, здзіўлёны дужа:
— Характарыстыку сабе
Пісалі самі, дружа?

Няма ў вас сораму — о не!..
— Саромецца даволі,
Бо лепш, чым я, ніхто мяне
Не будзе знаць ніколі!

**І. Петрасян**

**...Паклаўшы пад галаву мяшок з лаўровым лістом, лічыў, што спачывае на лаўрах.**

**...Ён гаварыў многа, але свайго пакуль не сказаў.**

## ДАПАМОГ БЫ

Вярнулася ўнучка дамоў, не здала ўступных экзаменаў ва ўніверсітэт.

Дзядуля пытае яе:

— Чаго ж ты не ведала, дзіцятка маё?

— Ды... не магла здабыць кораня...

— Трэба было мне сказаць, я б табе які трэба корань здабыў бы.

# ГУМАР З ...

## ЗАЕЧАЕ САЛА

Едуць пан з фурманам. Пан кажа:

— Во, забіў я зайца, дык з яго сала было з цэлы пуд. А фурман яму:

— Во, пане, будзем ехаць цераз мост, дык там чорт брахуноў хапае.

— А далёка той мост?

— Ды не, — кажа фурман, — во за гэтым лесам, дзе гара, а там луг, а там ужо зусім блізка.

Як уехалі яны ў лес, пан зноў фурману:

— Каб ты ўбачыў таго зайца! Аднаго сала было фунтаў з дзесяць.

Едуць яны далей. Праехалі ўжо лес, дык пан кажа:

— Ну можа, не дзесяць, але фунтаў пяць з таго зайца сала было.

А як пайшла дарога лугам, дык пан ужо:

— Ну, хоць сала на ім не было, а ўсё ж заяц быў і не такі худы.

Едуць яны далей. Праехалі луг, грэблю, а моста ўсё няма.

— А дзе ж той мост? — пытае пан.

— А разышоўся, як заечае сала.

*— Нешта, здаецца, не так.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Рэні Самойлік з Беластока змяшчаем песню з рэпертуару Е. Паломскага

### KIEDY MIŁOŚĆ ODCHODZI

Kiedy miłość odchodzi
Nie zatrzymuj jej siłą,
Nie przywróci nam słowik
Tego co się skończyło.

Miłość nigdy nie wraca,
Czy jesienią, czy zimą,
Ginie w czasie, przestrzeni,
Nie zatrzymuj jej siłą.

Nie wierz złudnym uśmieszkom
Bez pokrycia jak wiatr,
To nie prawda, że echo
Chce odnaleźć twój ślad.

Kiedy miłość odchodzi...
itd.

## НОВЫЯ ПАТЭНТЫ

*Акуляры для закаханых.*

## ПРАЦАВІТЫ

— Работа мяне заваліла. Толькі лягу, вочы заплюшчу, усялякая чартаўшчына лезе, — прызнаецца начальнік. І той аб'ект, і гэты. Усюды хаджу, камандую. А галоўнае, за ўсё мяне лаюць...

— Я разумею вас, — падтрымлівае сакратарка, — вам трэба падаць заяўку на звышурочныя гадзіны работы. Вы ж нават у сне працуеце!

## БРЫТВА ВІНАВАТА

Сустрэў адзін чалавек сябра. Глядзіць, а ў таго адна шчака паголена, а другая — зарослая.

— Міколка, — здзівіўся ён, — чаму гэта ты ходзіш непаголены?

— Ды ну яго к чорту! — махнуў рукою Мікола. — Вось купіў новую брытву, а яна такая дрэнная, так скубе, што не вытрымаць.

— Дык навастрыў бы яе.

— Ды ўжо двойчы вастрыў на цагліне.

— Ну, дык, значыць, не брытва, а цагліна вінавата, — кажа сябра.

— Можа, і так, — згадзіўся Мікола, а праз хвіліну дадаў задумліва: — Але і цагліна ж новая!

## У СТАЛОВАЙ

Наведвальнік:

— Што за дзіва, раней вы клалі ў боршч два шматкі мяса, а цяпер толькі адзін?

Афіцыянт:

— Прабачце, напэўна, повар забыў яго разрэзаць.

# КУРЁЗЫ

## НЕ БОЙЦЕСЯ ДАНАЙЦАЎ!

Чучала кракадзіла завяшчала свайму зяцю місіс Азол, багатая пані з Чыкага, грашыма ж — ні цэнта. Абражаны зяць нейкі час цярпеў дома хоць і не жывую, ды ўсё ж агідную пачвару. Аднойчы душа яго не вытрымала: прыпомніўшы ўсе крыўды, перанесеныя ім ад нябожчыцы цешчы, ён выкінуў кракадзіла на вуліцу з дваццаць чацвёртага паверха. Ад удару аб асфальт кракадзіл лопнуў, і з яго чрэва градам пасыпаліся залатыя манеты. Пакуль нешчаслівы паспеў збегчы ўніз, было позна — золата расхапілі невядома адкуль узяўшыеся прахожыя. І засталася на тратуары толькі разарваная ў кавалкі шкура драпежніка ды — у бронзавай рамачцы — партрэт цешчы з надпісам: „На памяць“.

## МАТАДОР — ПАЯЦ

Іспанскі тарэра Блас Рамера падпісаў кантракт на пяць сезонаў запар. Прычым ён будзе выступаць у не зусім звычайнай ролі... паяца. Сярод аматараў карыды гэта выклікала хваляванне. У чым жа заключаецца яго нумар?

Блас Рамера выходзіць у шаўковым, бліскучым касцюме, твар яго напудраны. З'яўляецца бык. Але тарэраклоўн замест шпагі бярэ ў рукі саксафон. Сумная мелодыя паўзе над арэнай. Нават бык, упадаючы ў меланхолію, апускае задумліва галавы. Левая рука клоўна па-ранейшаму на клапанах саксафона, а ў правай раптам з'яўляецца мулета, якая маланкава ўпіваецца ў загрывак звера. Адзінае, чаго баіцца Блас Рамера — гэта з'яўленне быка, пазбаўленага музычнага слыху.

# Сміяне нами

*Не рабіце нажамі надпісы на гістарычных помніках — хіба вы не бачыце, што на іх ужо няма жывога месца?*